Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 250
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 21 кастрычніка 1998 г. № 113 (505) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Родную мову вярнулі

**Як мы ўжо паведамлялі, з 16 па 23 лютага 1999 года ў нашай краіне пройдзе перапіс насельніцтва.**

Міністэрства статыстыкі днямі атрымала дазвол прэзідэнта на друкаванне перапісных лістоў. Загадчыца аддзела перапісу Стэфанія Лукашэвіч сказала, што ў змест пытанняў анкеты ўнесена значнае дапаўненне. *«Па просьбе чытачоў вашай газеты ўключана пытанне пра родную мову»*, — паведаміла нам С.Лукашэвіч. Цяпер грамадзянін Беларусі павінен будзе паведаміць у перапісным лісце пра сваю родную мову, пра мову, на якой ён размаўляе дома, і ўказаць, якімі мовамі ён валодае свабодна. Усяго ж перапісны ліст складаецца з 17 блокаў пытанняў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Сакрэтная аперацыя?

**Шэфу беларускага КДБ Уладзіміру Мацкевічу зрабілі дарагую аперацыю ў адной з нямецкіх клінік.**

Паводле неафіцыйных звестак, лячэнне аплаціла адміністрацыя прэзідэнта. У прэс-службе КДБ не пацвердзілі, але і не абверглі гэтую інфармацыю, маўляў, пішыце што хочаце. Не далі адназначнага адказу і ў міністэрстве аховы здароўя, хаця менавіта тут вядзецца ўлік усіх нашых грамадзянаў, якія лечацца за мяжой за дзяржаўны кошт.

**А.Д.**

## Шарамета чакаюць у Штатах

**Карэспандэнт ОРТ Павел Шарамет удастоены прэміі «За свабоду прэсы» міжнароднага Камітэта абароны журналістаў.**

Уручэнне ўзнагароды павінна адбыцца ў канцы лістапада ў ЗША. Аднак Павел Шарамет, як вядома, з'яўляецца «невыязным». У пачатку года яго асудзілі за «незаконны пераход беларуска-літоўскай мяжы» да двух гадоў умоўнага зняволення з адкладам выканання прысуду на адзін год.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Беларускі рэкорд

**У кастрычніку гэтага года Беларусь выйшла на першае месца сярод краінаў былога СССР па ступені абясцэньвання нацыянальнай валюты ў дачыненні да амерыканскага долара, абагнаўшы на працягу апошніх трох месяцаў Туркменістан і Грузію.**

Такі вынік атрыманы пасля праведзенага агенцтвам БелаПАН параўнаўчага аналізу курсаў нацыянальных валют гэтых дзяржаў да долара без уліку дэнамінацыі, што праводзілася пры іх увядзенні або ў перыяд абарачэння. Па стане на 19 кастрычніка, у пяцёрку краін з найбольш абясцэненымі валютамі ўвайшлі Беларусь, Туркменістан, Грузія, Украіна і Узбекістан.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Кароткі пікет – хуткі суд

**Старшыня гомельскага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта Яўген Мурашка рашэннем суда Цэнтральнага раёна Гомеля аштрафаваны на 7 мільёнаў рублёў за правядзенне 19 кастрычніка несанкцыяванага пікета.**

Пікет працягваўся нядоўга. Раніцай Яўген Мурашка стаў каля ўваходу ў гарвыканкам, трымаючы плакат «Злачынная тая дзяржава, якая парушае правы сваіх грамадзян». Гэты пратэст быў адрасаваны гарадскім уладам, якія адмовілі ў правядзенні мітынгу, пікетаў і збору подпісаў за адстаўку прэзідэнта Лукашэнкі. Літаральна праз некалькі хвілінаў Я.Мурашку затрымала міліцыя і праз некаторы час даставіла ў суд.

*БелаПАН*

## Прызнанне міністра

### *Сёння ў Беларусі толькі 65 калгасаў і саўгасаў з'яўляюцца рэнтабельнымі*

Такую інфармацыю паведаміў на паседжанні аграрнай камісіі ў прэзідэнцкай «палаце» міністр сельскай гаспадаркі Іван Шакола. Па яго словах, сёння 249 гаспадарак Беларусі знаходзяцца на мяжы банкруцтва, 600 з'яўляюцца патэнцыйнымі банкрутамі, 2.000 ледзь зводзяць канцы з канцамі.

На думку Івана Шаколы, каб вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі стала рэнтабельнай, неабходна павысіць закупачныя цэны на малако на 64 працэнты, на мяса — у 2,2 раза. Аднак, па разліках міністэрства эканомікі, такое павышэнне закупачных коштаў выкліча і павелічэнне рознічных цэн на прадукты харчавання ад 50 да 120 працэнтаў.

*БелаПАН*

# Фарпост супраць NATO

## *Беларусь зноў стала «пярэднім краем абароны»*

**16 кастрычніка ў Маскве адбылася сумесная калегія міністэрстваў абароны Расіі і Беларусі.**

У паседжанні прынялі ўдзел міністры абароны абедзвюх краінаў Ігар Сяргееў і Аляксандр Чумакоў. Бакі абмеркавалі шэсць пытанняў, галоўнае з якіх — знешнепалітычная дзейнасць ваенных ведамстваў Расіі і Беларусі ў рамках геастратэгічнай сітуацыі, якая склалася ў выніку запланаванага ўступлення ў *NATO* Польшчы, Венгрыі і Чэхіі.

*«Мы зробім неабходныя сумесныя захады па забеспячэнні мірнай працы нашых грамадзянаў»*, — паабяцаў міністр абароны Расіі І.Сяргееў. А наш міністр заявіў, што Беларусь з'яўляецца пярэднім краем абароны расійска-беларускага саюза ад *NATO*.





*На здымках: міністры Ігар Сяргееў і Аляксандр Чумакоў.*

Міністры абароны падпісалі пагадненне аб знешнепалітычнай дзейнасці ваенных ведамстваў у сувязі з пашырэннем *NATO* і аб забеспячэнні рэальнай бяспекі ў ваеннай сферы. Акрамя таго, падпісаныя пагадненні аб сумесным выкарыстанні аб'ектаў ваеннай інфраструктуры Расіі і Беларусі і аб інфармацыйным абмене. Міністры зацвердзілі план ваеннага супрацоўніцтва на 1999 год, а таксама праграму ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва і план работ па фарміраванні сумеснага абароннага заказу.

Падчас паседжання А.Чумакоў намякнуў, што Расія можа лічыць нашую армію Беларускай ваеннай акругай. На практыцы, гэта так і ёсць. Сілы супрацьпаветранай абароны дзвюх краінаў нясуць сумеснае баявое дзяржурства, расійскім ваенным прадастаўлена права карыстацца беларускімі аэрадромамі, а таксама станцыяй у Вілейцы, якая сочыць за падлодкамі. Акрамя таго, як піша газета «КоммерсантЪ-Daily», згодна з планамі расійскага Генштаба, у выпадку ваеннага канфлікту з *NATO* беларускія ўзброеныя сілы аўтаматычна пераўтвараюцца ў агульнавайсковую армію і становяцца ў складзе адзінай групоўкі войскаў.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

# Ці прыедзе Папа ў Беларусь?

**Кардынал Казімір Свёнтак афіцыйна запрасіў Папу Рымскага Яна Паўла II наведаць Беларусь.**

Гэта адбылося падчас аўдыенцыі ў Папы групы беларускіх паломнікаў на чале з кардыналам Свёнтакам.

Як нам стала вядома, рымскі першасвятар у адказ на прапанову кардынала Свёнтака наведаць Беларусь сказаў наступныя словы: *«Калі Бог дазволіць, то прыеду»*. Папа зазначыў, што атрымлівае ад вернікаў з Беларусі шмат лістоў з просьбамі наведаць іх Бацькаўшчыну.

Нагадаем, што гэтымі днямі ў Рыме знаходзіцца дэлегацыя каталікоў з Беларусі (больш за 900 чалавек), якія ўдзельнічаюць у святкаванні 20-гадовага юбілею знаходжання Папы на Апостальскім пасадзе. Звяртаючыся да беларусаў падчас імшы на плошчы Святога Пятра, Ян Павел II сказаў: *«Свабоду нельга проста мець, яе трэба пастаянна здабываць»*.

Тым часам у замежных СМІ ўжо з'явілася першая рэакцыя на прапанову кардынала Свёнтака. У прыватнасці, польскія і італьянскія мас-медыя параўноўваюць магчымы візіт Яна Паўла II у Беларусь з падобнымі паездкамі Папы ў Польшчу ў гады камуністычнай дыктатуры ці з сёлетняй пілігрымкай рымскага пантыфіка на Кубу. Разам з тым у каментарах заходняй прэсы адзначаецца, што верагодны візіт Папы ў Беларусь можа стаць не толькі актам падтрымкі каталіцкай меншасці і прыхільнікаў дэмакратыі ў гэтай краіне, але і паслужыць умацаванню палітычных пазіцыяў аўтарытарнага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.



Беларускія палітыкі прызнаюць, што прыезд Яна Паўла II у Беларусь быў бы карысным для справы дэмакратыі, але сумняваюцца, што такі візіт адбудзецца. Напрыклад, Юрый Хадыка лічыць, што *«Лукашэнка ўзяў курс на падтрымку артадаксальнага праваслаўя і не дазволіць прыехаць у Беларусь кіраўніку каталіцкага Касцёла, які часта выступае ў абарону свабоды сумлення і правоў чалавека»*.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Адкуль у бацюшкі «кругленькая» сума?

**У справе аб забойстве настаяцеля брэсцкай Свята-Мікалаеўскай царквы айца Міхаіла фігуруе вялікая сума грошай.**

З дасведчаных крыніцаў у праваахоўных органаў Брэста, нам стала вядома, што ў сейфе забітага 13 кастрычніка айца Міхаіла Сацюка была схаваная ўнушальная сума грошай. Рабаўнікі, якія авалодалі ключамі ад сейфа, пасля забойства святара не здолелі дабрацца да грошай, бо яны знаходзіліся ва ўнутраным аддзяленні сейфа пад асобным замком. Адчыніць гэтае аддзяленне ўдалося толькі сышчыкам. Знаходка іх вельмі ўразіла. Памер знойдзеналай у айца Міхаіла сумы хаваецца ў вялікім сакрэце, але зразумела, што з-за дробязі міліцыянты не сталі б падымаць «хвалю».

Між тым вядома, што ўжо ў першы дзень следства сышчыкі пацікавіліся паходжаннем гэтых грошай у служыцеляў Свята-Мікалаеўскай царквы і ніхто з апытаных святароў нічога патлумачыць не здолеў. У выніку праваахоўныя органы Брэста заявілі аб намеры распачаць рэвізійную праверку справаў Свята-Мікалаеўскага прыходу. Кіраўніцтва Беларускай праваслаўнай царквы паінфармавана аб гэтых планах і не выказалася супраць.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# 2 лістапада – Дзень Мовы

## *У Дзень памяці продкаў, у Беларусі праводзіцца Дзень Мовы*

З такой ініцыятывай выступілі рэдакцыя газеты «Наша Ніва», аднайменны гуманітарны фонд і шэраг іншых няўрадавых арганізацыяў. Скарыстаўшыся прыкладам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якая раз у год праводзіць Дзень без цыгарэты, ініцыятары прапануюць 2 лістапада правесці беларускі Дзень без чужога слова.

Сёння ў Беларусі ўжо тысячы людзей падтрымліваюць адраджэнне роднай мовы і нацыянальную ідэю. Але не сакрэт, што ў побыце гэтыя людзі гавораць, як правіла, не па-беларуску. У гэтым ім замінае псіхалагічны бар'ер і тая палітыка нецярплівасці да беларушчыны, якая ў нашай краіне праводзілася не адзін год. Чалавеку, які прагне заўсёды і паўсюль гаварыць на мове дзядоў, псіхалагічна цяжка ўвесь час, у малым і вялікім, пераадольваць супраціў асяроддзя, тлумачыць і даказваць, што ён мае права ў сваёй краіне карыстацца сваёй мовай.

Каб выправіць такое ненатуральнае становішча, ініцыятары заклікаюць усіх беларусаў, дзе б яны ні апынуліся ў Дзень Мовы, 2 лістапада, — на вуліцы, у краме ці грамадскім транспарце, у афіцыйнай установе або ў сям'і, — гаварыць, пісаць, чытаць і слухаць толькі па-беларуску. Каб у гэты дзень адчуць сябе цалкам у сваёй краіне. Ініцыятары разлічваюць, што ў абвешчаны Дзень без чужога слова ў Беларусі шырэй загучыць родная мова, а ўражанні і думкі людзей, народжаныя ў гэты дзень, трапяць на старонкі газет, у радыё і тэлеперадачы.

Дзень Мовы мусіць стаць для беларусаў Днём нацыянальнага здароўя. Ініцыятары мяркуюць і надалей праводзіць такі Дзень у другі дзень кожнага месяца і спадзяюцца на падтрымку ў гэтай справе ўсіх зацікаўленых асобаў і арганізацыяў.

**Б.П.**

# Мітынг ТБМ

**Заўтра Таварыства беларускай мовы будзе праводзіць мітынг у падтрымку беларускамоўнай адукацыі. Мітынг адбудзецца на плошчы Якуба Коласа ў Мінску з 17:30 да 19:00.**

НАВІНЫ
21 кастрычніка 1998 г., № 113 (505)

## Камсамольцы запрашаюць Лукашэнку

**У Беларусі рыхтуюцца на дзяржаўным узроўні адзначыць 80-годдзе ВЛКСМ.**

Плануецца, што 29 кастрычніка, непасрэдна ў дзень нараджэння камсамола, у мінскім Доме афіцэраў пройдзе ўрачысты сход, на які запрошаны прэзідэнт А.Лукашэнка.

*БелаПАН*

## Шосты МакДональдс

**Новы рэстаран МакДональдс на вуліцы Няміга ў Мінску будзе адкрыты да канца года.**

Гэта будзе шосты па ліку рэстаран кампаніі ў Беларусі і чацвёрты рэстаран сістэмы «драйв». Пры гэтым у трохпавярховым будынку ўласна рэстаран будзе займаць толькі першы паверх, а другі і трэці паверхі, відаць, будуць аддадзены пад офісы для замежных і беларускіх кампаніяў. Рэстаран на Нямізе разлічаны на 100 наведвальнікаў; штатная колькасць абслугоўваючага персаналу складае таксама каля 100 чалавек. Кошт рэстарана з абсталяваннем роўны прыблізна 1,2 млн. долараў ЗША.

*БелаПАН*

**КАДРЫ**



*Могілкі ў мястэчку Ілля Вілейскага раёна Мінскай вобласці.*

## У «Рассвете» – свята

*Кіраўніцтва славутага калгаса «Рассвет» адзначае гадавіну барацьбы са «старавойтаўскай мафіяй»*

З гэтай нагоды ў праўленне калгаса былі запрошаныя следчыя, якія ўжо год корпаюцца ў мясцовых справах, вышукваючы крымінал супраць двойчы героя сацыялістычнай працы Васіля Старавойтава, ягоных сваякоў і намеснікаў. Ад імя народа барацьбітоў з карупцыяй вітаў новы старшыня «Рассвета» сп.Іваноў. Ён лічыць, што следчыя літаральна выратавалі калгаснікаў з нявolі пад назвай акцыянернае таварыства «Рассвет». У знак павагі і ўдзячнасці ўсім «выратавальнікам» былі ўручаныя падарункі. Самыя пільныя сышчыкі атрымалі ў якасці падарунка імянныя гадзіннікі.

У комплексную брыгаду следчых, якая працуе ў «Рассвеце», уваходзяць работнікі пракуратуры Мінска, Магілёва, Бабруйска, Кіраўска. Яны ўзбудзілі дзесяткі крымінальных справаў, адправілі на лаву падсудных ці ў следчы ізалятар былога намесніка Васіля Старавойтава, двух ягоных зяцёў і большасць кіраўнікоў падраздзяленняў. Сам двойчы герой ужо амаль год як чакае за кратамі суда. Толькі вось зладзеі ў «Рассвеце» ўсё ніяк не пераводзяцца. Напрыклад, зусім нядаўна невядомыя абрабавалі хлеў адной з дачок Васіля Старавойтава — Тацяны. Яна выклікала міліцыю, і падчас размовы з міліцыянтам пачула ад яго шчырае: «Вы б ведалі, Васільеўна, колькі ў нашай гаспадарцы цяпер крадуць!». «А чаму б не красці? — кажа дачка Старавойтава. — Цяпер жа вакол усё калгаснае, а значыць — нічыё».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Беларусь прапануе бульбу ў абмен на збожжа

**Сёлета Беларусь плануе закупіць у Расіі, Казахстане і ва Украіне 1 мільён 200 тысяч тон харчовага і фуражнага збожжа.**

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік міністра сельскай гаспадаркі Анатоль Рубанік. Па яго словах, гэтай восенню ўжо імпартавана 50 тысяч тон харчовай пшаніцы, далейшыя закупкі збожжа плануецца ажыццяўляць як за валюту, так і па бартэры. Палтаўская вобласць Украіны, напрыклад, прапаноўвае Беларусі фуражнае збожжа па дастаткова прымальных цэнах — 80-85 долараў ЗША за тону. Беларусь жа прапанавала Расіі абмяняць бульбу на збожжа ў такой прапорцыі: за адну тону бульбы — паўтары тоны збожжа.

*БелаПАН*

## Чарговы «Залаты шлягер»

**1 лістапада ў Магілёве адкрыецца міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер»**

Чакаецца ўдзел Мусліма Магамаева, Эдзіты П'ехі, Нані Брэгвадзе, Уладзіміра Мулявіна, Мікалая Слічэнкі і іншых. Бюджэт фестывалю складае 11 мільярдаў рублёў.

*БелаПАН*

# Наш маленький

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



Одна из самых заметных черт характера Лукашенко, которая роднит его со Сталиным — непомерное властолюбие. Причем это любовь не просто к власти, а к власти без всяких противовесов, не ограниченной ни правовыми нормами, ни государственными или общественными структурами (формально такой власти не было даже у Сталина — но фактически она имеется и у Лукашенко).

Ту власть, которой обладают демократические лидеры, Лукашенко, видимо, и за власть-то не считает. Взять, к примеру, Клинтона. Одно название, что президент «великой державы». А слабо́ ему издать декрет, который будет выше всех законов? То-то. Он вынужден подчиняться законам, которые принимает неподконтрольный ему Конгресс, и выполнять решения независимого от президента Верховного суда. И губернаторам он разнос устроить не может, потому как их народ выбирал. И даже захудалый фермер ему отчета не даст, чего посеял и сколько убрал. А тут еще каждая стерва норовит публично поведать об интимных отношениях. Посадил бы одну за «клевету на президента», закрыл бы за «распространение порочащих сведений» пару газет — небось другие бы остереглись.

Нет у Клинтона такой возможности, если б он и хотел. Так какая же это власть? Власть — это когда все подчиняются, когда приказал — и все бросились исполнять (или, по крайней мере, сделали вид). А ведь в США, по Конституции — «сильный» президент, в Европе таких полномочий обычно не дают. Короче, гнилое это дело — демократия. То есть для страны-то оно, может, и неплохо, но вот для руководителя — явно гнилое. Во всяком случае, для руководителя сталинского типа.

### Кто кого кормит?

Роль субъектов власти в цивилизованных странах — это, в общем, роль обслуживающего персонала: свободные люди выбирают должностных лиц, чтобы те защищали их интересы, за что люди их и кормят. У нас же всё поставлено с ног на голову. *«Мы народ свой должны накормить!»* — провозглашает Лукашенко. Как вы можете кого-то накормить — пятью хлебами, что ли? Кто кого кормит на самом-то деле? Однако формулировочку «накормить народ» не Лукашенко придумал, она — продукт той самой, сталинской, системы.

Кто кого кормит — тот тому и указывает. Отсюда и отношение к населению страны — как к подчиненным. Отношение вполне сталинское. Какие у этих подчиненных могут быть права или — Боже упаси — свободы? Только те, которые дозволены властью. Причем по начальственному указанию правила в одночасье могут быть изменены. Ни Сталин, ни Лукашенко ни на какие законы никогда особого внимания не обращали.

Такой же ширмой, как сами законы, являются и органы, которые их издают. При Сталине сочетание «власть Советов» превратилось в полную фикцию: Советы были сохранены только как декорация, низведены до уровня машины для единогласного голосования и ничего не решали по существу. Такую же почетную миссию выполняют представительные органы и при Лукашенко. Может ли нынешний псевдопарламент принять решение, противоречащее мнению диктатора? Вопрос риторический. Если даже вообразить себе такую невероятную ситуацию — все равно исполнительная власть, подчиненная только Лукашенко, исполнять это решение не будет.

### Народ и люди

Населением можно манипулировать, ему можно беспардонно лгать. Поэтому наш режим любит красивые абстракции, которые ни к чему не обязывают. Например: Лукашенко постоянно употребляет слово «народ». У Б.Окуджавы в цикле стихов о Сталине была такая характеристика: *«Он народ ценил высо́ко, а людей не ставил в грош»*. С полным основанием ее можно отнести и к Лукашенко. Вот на английский язык эту фразу дословно-то и не переведешь: там понятия «народ» и «люди» обозначаются одним и тем же словом. А у нас они как-то разделились.

*«Я хочу войти в историю таким, каким меня хочет видеть народ!»* — выспренно заявлял Лукашенко. Какой народ, Александр Григорьевич? Один человек хочет видеть вас таким, другой этаким, третий вообще вас видеть не хочет, а четвертому всё «до лампочки».

Сталину тоже нравилось, когда «многомиллионный советский народ в едином порыве» его поддерживал. И не нравились те, кто задумывается и хочет разобраться. Так же не нравятся они и Лукашенко — тех, которые безоговорочно верят, использовать проще. Постоянное употребление словосочетания *«простые люди»* свидетельствует о ностальгии как раз по таким подданным — нужны простые, непритязательные, ни во что не вникающие, благодарные неведомо за что и довольствующиеся тем, что есть.

### Кругом враги

Авторитет первого лица должен быть непререкаемым. Этого добился Сталин, этого добивается и Лукашенко. Потому любые оппоненты воспринимаются не как люди, имеющие иную точку зрения, а как враги, с которыми нужно бороться.

Неустанный поиск врагов связан и с другой вещью. Вину за ухудшение жизни в стране надо переложить на чьи-то плечи, а также отвлечь внимание людей от многочисленных провалов в экономике и политике. Для этого используются примитивные методы, широко отработанные при Сталине. Именно тогда людям внушали со страниц газет, что вся внутренняя оппозиция инспирируется извне, находится на содержании у Запада и на Запад же работает против собственной страны и народной власти. И заговоры разоблачали (в том числе направленные лично против Сталина), и шпионов да диверсантов выявляли (разумеется, завербованных тем же Западом).

Разве у нынешнего белорусского режима восприятие принципиально иное? Можно вспомнить и "утку" с бизнес-планом, по которому Запад якобы готов был финансировать белорусскую оппозицию, и ряд версий о «покушениях» на Лукашенко, и еще много примеров. Самые свежие из них — последние заявления Лукашенко по поводу Югославии и насчет того, что убийство Миколуцкого было организовано западными дипломатами в Дроздах, а следующим шагом должно было стать очередное покушение на главу Беларуси. У Сталина были «врачи-убийцы» — у Лукашенко «послы-убийцы». Какая, по большому счету, разница?

А может, Лукашенко и в самом деле верит в околесицу о «послах-убийцах», которую он излагал журналистам? Что ж, можно допустить и такую мысль. В пору перестройки публиковались статьи психиатров, которые доказывали, что Сталин действительно был убежден: его окружают сонмища врагов. И однозначно характеризовали это диагнозом «паранойя».

### Нужна ядерная дубина

Несмотря на все потуги, Сталин у нас получается какой-то захолустный. Сталину нужна империя. Тогда можно будет творить всё что угодно, ни на кого не оглядываясь. Не в этом ли кроется одна из причин, по которым Лукашенко так неймется возглавить Россию?

Сталин всегда стремился компенсировать экономическую отсталость военной мощью. Именно в сталинских временах — истоки одного из комплексов советского человека; этот комплекс нередко проявляется сейчас у тех, кто ностальгизирует по Советскому Союзу: мы, мол, были пускай и бедными, но зато сильными, и весь мир с нами считался. Сегодня над угрозами Лукашенко в адрес *NATO* потешаются. А вот если бы он был президентом ядерной державы — кто посмел бы хихикнуть? Маловероятно, что Лукашенко достанется империя, — но чем черт не шутит, в истории всякие казусы бывали. И вот тогда, не дай Бог, будет не до смеха.

### Сказка о справедливом «батьке»

Как бы там ни было, покамест Лукашенко на российские просторы не вырвался, и довольствуется ролью Сталина в белорусском политическом театре. И Сталин в его исполнении выходит во многом карикатурным персонажем. Вот, скажем, высокое звание *«батька»*, которым Лукашенко уважительно нарек себя сам и которое стало ироническим штампом — разве это не пародия на *«отец народов»*, как величали Сталина? Кроме этого, Сталин был еще «лучшим другом советских физкультурников» — но лично возглавить Национальный олимпийский комитет он не догадался, на Олимпиады во главе спортивных делегаций не ездил и не учил спортсменов, как им играть. Равно как не руководил сельхозработами. и разносы, которые устраивал своим чиновникам, на всю страну не транслировал.

Всё это у Лукашенко выглядит и вправду комично — а Сталин ставить себя в дурацкое положение не любил. Лукашенко демонстративно сует нос в каждую щель — Сталин считал это ниже своего достоинства. Но разница здесь между ними только в форме подачи, а цель одна: тотальный контроль властей над всеми сферами жизни. И, поскольку ничего хорошего людям такой контроль не приносит — сказка про «доброго царя». В сталинские времена широко бытовала легенда, что Сталин, мол, не знает о мерзостях, чинимых на местах, а если б узнал, то сразу заступился бы за невинных и покарал начальников-негодяев.

Официозные белорусские СМИ усиленно насаждают легенду о справедливом «батьке», который может приехать в любую забытую Богом деревню, приструнить начальство и навести порядок во всем, вплоть до самых мелочей. Конечно, на самом деле, коль скоро чиновники всецело зависят от Лукашенко (как зависели от Сталина), а не от граждан, то Лукашенко персонально и несет ответственность за их деятельность, и раз он назначил на должность таких, которым надо устраивать разносы — значит, он плохой руководитель. Но это, опять же, если

## Выдадут ли Пиночета?

**Адвокаты бывшего военного лидера Чили генерала Аугусто Пиночета, который был арестован в Лондоне, уверены в том, что Пиночет не будет выдан Испании.**

На прошлой неделе двое испанских судей выдали ордер на арест и сейчас готовят официальный запрос о его выдаче Испании. Речь идет об ответственности Пиночета за гибель более семидесяти испанских граждан в Чили во времена его правления. Вопрос о выдаче будет решать МВД Великобритании. Министр внутренних дел Джек Стро уже заявил, что все будет рассматриваться на общих основаниях.

## Сербские радикалы хотят в союз

**Вице-премьер правительства Сербии Воислав Шешель (Сербская радикальная партия) намерен поставить в парламенте вопрос о присоединении Югославии к союзу России и Беларуси.**

Шешель также сказал, что в ходе встреч с делегацией Госдумы РФ во главе с Сергеем Бабуриным, который инициировал вопрос сближения СРЮ с союзом России и Беларуси, обсуждалась возможность вступления Югославии в Содружество независимых государств. «СРЮ готова внести в повестку дня Скупщины и это предложение». По словам Шешеля, г-н Бабурин считает приближение Югославии к союзу России и Беларуси наилучшим способом предотвращения новых силовых угроз *NATO* в адрес СРЮ.

## Балтийская конференция

Вчера в Таллинне открылась двухдневная международная конференция «Экономическое сотрудничество Балтийского региона: дорога в будущее». В ней участвуют делегации Эстонии, Латвии, Литвы, Финляндии, Швеции и Норвегии. Конференция проводится под эгидой Организации экономического сотрудничества и развития.

*По сообщениям информационных агентств и материалам зарубежной прессы*



# Арест диктатора: мнения и оценки

**АРЕСТ** в лондонской клинике генерала Аугусто Пиночета доказывает, что «никто не может ставить себя над законом», считают британские газеты.

*Financial Times* пишет, что этот арест покажет тем, кто обвиняется в террористической деятельности, что привлекаться к суду они будут усилиями международного сообщества. Так что выторгованный в собственной стране иммунитет может оказаться бесполезным.

*The Independent* полагает, что этот арест станет доброй новостью. Не столько для родственников жертв Пиночета, ибо уже поздно, сколько для будущих диктаторов, которым теперь «придется оглядываться, почувствовав на своем плече тяжесть длинной руки международного закона».

По мнению *The Times*, Великобритания стоит перед дипломатической дилеммой, и вопрос этики по отношению к больному 82-летнему человеку должен решаться с учетом тяжести совершенных им преступлений.

*The Guardian* указывает на грустную иронию этого ареста. Во время предыдущих поездок в Англию Пиночет пил чай с Маргарет Тэтчер, покупал британское оружие, посещал музеи и поправлял здоровье. Он даже говорил, что это идеальная для жизни страна.

На фоне этого, в общем, единодушного хора резко выделяется *The Daily Telegraph*. Газета осуждает арест человека, который был поддержан двумя третями населения на референдуме 1980 года, а в 1990-м мирно передал бразды правления. Автор статьи не отрицает, что во время захвата власти Пиночет пролил много крови, но напоминает, что при Сальвадоре Альенде, который бесстыдно вел страну к коммунизму, тоже погибали невинные чилийцы, а останься он у власти — погибли бы еще тысячи. *The Daily Telegraph* напоминает, что, когда шла война за Фолклендские острова, Чили, единственная среди стран Латинской Америки, стояла на стороне Великобритании. И что, будучи у власти, Пиночет был безусловным союзником.

*Подготовила* **Валерия ШАБАЕВА**

# Запрет на убийства отменят?

**Американский сенатор Кристофер Бонд призвал администрацию США отменить официально существующий с 1976 года запрет на убийства лидеров иностранных государств.**

Запрет на убийства представителей иностранных государств был введен еще президентом Фордом. В 1976 году он подписал указ по этому поводу после серии разоблачительных слушаний в Конгрессе, на которых были вскрыты факты готовившихся операций ЦРУ по уничтожению зарубежных лидеров, включая кубинского руководителя Фиделя Кастро. Конкретно этот указ запрещал участие официальных представителей США в заговорах или осуществлении «политических убийств».

Справедливости ради надо отметить, что в Вашингтоне периодически вспыхивают политические дискуссии по вопросу о возможной отмене действующего закона. В настоящее же время дебаты по этому вопросу активизировались в связи с усилившимися угрозами террористических актов против американских интересов как внутри страны, так и за рубежом со стороны известного террориста Усамы Бен Ладена. В частности, члены юридического комитета сената Конгресса США даже обратились к директору ФБР Луису Фри с просьбой представить юридическое разъяснение по вопросу, распространяется ли запрет на убийства лидеров иностранных государств также на руководителей организованных преступных группировок и террористических групп.

**Б.Б.**

# Сталин

вдумываться, делать логические выводы. Подобные занятия режимом не поощряются. Ими не злоупотребляет и сам Лукашенко, судя по его поведению.

### Идеологическая каша

Сталин учился в духовной семинарии — Лукашенко закончил изуродованный советский аналог этого заведения (Высшую партийную школу). Поэтому, как и Сталин, Лукашенко отдает должное идеологии, только находится в более сложном положении. Сталину было достаточно вульгарного переложения марксистско-ленинских догм — Лукашенко требуется слепить нечто новое. Попытки такого рода, как известно, не прекращаются. Результат, надо думать, вскоре появится — какая-нибудь мешанина из коммунистических, панславистских и православных постулатов.

При этом практика для Лукашенко важнее теории. «Батька» на заседании своей «палаты» давеча сообщил, что при его администрации *«создано 7 информационно-пропагандистских групп»*, что на предприятиях *«мы пошли на введение должностей заместителей руководителей по информационно-воспитательной работе»* и что *«у нас появилось около 3 тысяч идеологических работников»*. Идеологические работники без внятно сформулированной идеологии — это что-то новенькое, ну да ничего, пока что обойдутся, будут вещать кто как умеет: о том, какой Лукашенко хороший, о кознях оппозиции и Запада, о необходимости «славянского единства» и преимуществах «рыночного социализма».

Впрочем, в тяге к общению с писателями и учеными, помимо идеологического обеспечения, есть и другая сторона. И Сталин, и Лукашенко ни по происхождению, ни по умственным или духовным качествам в обычных условиях никогда бы не пробились «наверх» — для обоих это стало возможным лишь благодаря пертурбациям в обществе и удачному (для них) стечению обстоятельств, которое они с максимальной выгодой использовали. И вот — интеллектуальная элита им внимает, мало того, они ее поучают; любая глупость, которую они изрекут, всерьез обсуждается; их превозносят, малюют на картинах и даже пишут о них книги. (Есть уже повесть «Александр Лукашенко», написанная в «лучших» советских традициях. Не читали? И не читайте. Даже посмеяться не удастся — просто скучно.) Причиной тому, разумеется, не личностные достоинства, а социальный статус — но все равно согревает самолюбие.

Белорусский официоз потихоньку пытается создавать культ личности — весьма убогий (собственно, какая личность, такой и культ). На портреты Лукашенко в учреждениях и безудержные комплименты СМИ в его адрес у многих людей, насколько мне довелось наблюдать, реакция здоровая — от сарказма до раздражения. Да и как еще реагировать нормальному человеку? Недавно корреспондент БТ повторил какой-то «батькин» афоризм, затем захлебнулся от восторга: *«Ну... ёмче не скажешь!»* — и сунул микрофон Лукашенко. Это что — журналист задал вопрос? Здесь можно говорить и о профессиональном уровне создателей культа, но гораздо важнее другое: грубая лесть в глаза приветствуется и пестуется.

### Нужны служаки

В окружении Лукашенко не задерживаются самостоятельные личности (не говоря уж о тех, кто мог хоть в чем-либо высказать несогласие с «батькой»). Прежде всего там ценятся кадры, готовые, не рассуждая, исполнять приказы. Поэтому настолько ко двору там приходится старая номенклатура, всегда знавшая толк в субординации, — некоторых товарищей Лукашенко вытащил из политического небытия, отряхнул с них пыль и поставил в строй. Точнее, в политическом-то небытии они остались, хотя и заняли высокие государственные посты. В любом социологическом опросе фигурирует группа оппозиционных политиков. Со стороны же режима — только Лукашенко. Кроме него самого, в его лагере политиков нет. Остальные — чиновники, служаки. Так было и при Сталине.

Тот факт, что Лукашенко одобрил внутреннюю политику Гитлера, тоже подтверждает сходство со Сталиным. В романе В.Гроссмана «Жизнь и судьба» штурмбанфюрер гестапо говорит старому большевику: *«Когда мы смотрим в лицо друг другу, мы смотрим в зеркало... Наши капиталисты не хозяева. Государство забирает их продукцию и прибыль. И над нашим народным государством красное рабочее знамя... Мы формы одной сущности»*. В политологических работах доказательства близкого родства коммунизма (особенно сталинизма) с нацизмом также приводятся часто. Да и вообще, все диктаторы в чем-то похожи.

Однако параллель напрашивается именно со Сталиным. «Совковость» Лукашенко бросается в глаза, да он и сам рад ее подчеркнуть. А постсталинские советские вожди не создавали систему — она досталась им в наследство. Систему (на базе того, что уже имелось) создал Сталин, который, не возглавляя революцию, получил власть. Так же и Лукашенко — он взял за основу номенклатурную систему, но многие элементы ему пришлось внедрять в Беларуси по новой. Причем делал он это большевистскими наскоками и силовым путем, что, опять же, сближает его со Сталиным.

Есть и «милые» психологические черточки, общие для обоих: мстительность, подозрительность, злопамятность, нетерпимость, грубость. У Сталина Лукашенко позаимствовал стиль руководства, при котором любая придурь вождя важнее всех законов и правил, стремление оградить себя от любой критики и быть главным авторитетом во всех областях (от спорта до сельского хозяйства). В экономике Лукашенко по-сталински отдает решительный приоритет командным методам и рубит на корню частную инициативу: Сталин задушил нэп и отдавал под суд за опоздание на работу — Лукашенко душит предпринимательство и готовится подписать указ об укреплении дисциплины. Наконец, подобно Сталину, Лукашенко свойственно стремление простереть свою власть не только вглубь, но и вширь, за рубежи своего государства.

### «Порядок и молчание»

Я прекрасно понимаю, что о различиях между Лукашенко и Сталиным можно написать еще больше. Самое существенное: при Сталине погибли миллионы — режим Лукашенко еще никого не убил. В Беларуси все-таки существуют политическая оппозиция и свободная пресса, политзаключенных — единицы. Однако после всего, что мы знаем о ГУЛАГе, об огромном количестве загубленных жизней и сломанных судеб, — малейшего сходства достаточно, чтобы бить тревогу. А в данном случае сходство, как видим, далеко не «малейшее». Тем более, что никаких сдерживающих механизмов нет, и возобновятся ли в нашей стране дела не так уж давно минувших дней шестидесятилетней давности, — зависит от прихоти диктатора.

Сам Лукашенко говорил о том, что «простые люди» требуют от него сталинской диктатуры. Письма от таких изредка приходят в нашу газету. *«Мало дубасят у нас этих оппозиционеров (подонков, которые действуют по заданию ЦРУ). Нужно за их предательскую деятельность дать так, чтобы у этих предателей уже не было бы сил на враждебную деятельность против своего народа»*, — пишет А.Плескацевич из деревни Дарево Ляховичского района Брестской области. Далее он ставит в пример И.В.Сталина, который расстреливал и сажал, и заканчивает послание словами *«Да здравствует народный Президент А.Г.Лукашенко!!!»* Но демократический президент не стал бы рассуждать всерьез о подобных требованиях. Равно как не пришло бы в голову даже самому простому человеку требовать сталинской диктатуры от цивилизованного лидера.

По аналогии с лозунгом «Сталин — это Ленин сегодня», можно сказать, что Лукашенко — это Сталин сегодня. То есть с поправкой на изменившиеся обстоятельства времени и места. Как-то очень не хочется, чтобы Беларусь входила в третье тысячелетие со Сталиным собственного разлива. Или это — из ряда тех катастроф, которыми, по Библии, знаменуется конец света?

То, чего добился Сталин и добивается Лукашенко, можно свести к формуле *«Порядок и молчание»*. Этими словами А.С.Пушкин описывал ад.



# Паклёп як метад гістарычнай навукі

## *Выйшла з друку «Гісторыя Беларусі» для студэнтаў*

Выхад гэтай кніжкі адзначаўся як надзвычайная падзея — з прэс-канферэнцыяй і шампанскім. Журналістам урачыста прадставілі ўсіх 6 прафесараў, 9 дацэнтаў і яшчэ 14 гісторыкаў без ступеняў і званняў, якія на працягу сямі гадоў стварылі гэтую двухтомную працу. Большасць з іх прасвятляе галовы студэнтаў Беларускага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, кіравала напісаннем кнігі кафедра гуманітарных дысцыплін гэтага універсітэта на чале з загадчыкам — прафесарам Яўгенам Новікам.

Гісторыкі пераконвалі журналістаў, што іхняя «Гісторыя Беларусі» мае прынцыпова новы характар. Маўляў, гэта першая гісторыя нашай краіны, напісаная ў постсавецкі час, прычым многія спрэчныя пытанні аўтары асэнсавалі па-свойму. Сутнасць творчага метаду прафесара Новіка і ягоных паплечнікаў заключаецца ў тым, што ўсе гістарычныя канцэпцыі постсавецкай, незалежнай Беларусі гэтыя навукоўцы аб'яўляюць буржуазнымі і паклёпніцкімі. Сп.Новік заявіў журналістам наступнае: *«Мы адверглі пісаніну некаторых гісторыкаў і публіцыстаў накont таго, што быццам нашыя бацькі будавалі не тое грамадства. Усё, чым сёння ганарыцца Беларусь, створана ў савецкі час».*

Упершыню паспрабаваўшы апісаць найноўшую гісторыю Беларусі — пасля 1985 года, — аўтары новай кнігі выдзелілі ў ёй два важныя этапы: *«1991–1994 гады як час капіталістычнай рэстаўрацыі»* і *«з 1994 года дзейнасць новага кіраўніцтва па вывадзе краіны з крызісу»*. Аднак заслуга гэтага дружнага калектыву не толькі ў тым, што на нашую гістарычную навуку і публіцыстыку 1990-х гадоў павешаны ярлык *«буржуазнага паклёпніцтва»*. Яны не паленаваліся пераасэнсаваць з *«адзінай ісціннай пазіцыі»* многія іншыя гістарычныя факты.

Як распавёў журналістам дацэнт Качалаў, новая кніга «развенчвае міфы» беларускай гісторыі, напрыклад, «памылковую» ацэнку паўстання 1863–1864 гадоў. *«На самой справе, — сказаў дацэнт, — выступленне Канстанціна Каліноўскага не было беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам, таму што абараняла інтарэсы Польшчы супраць Расіі»*. Вось так.

Адным словам, першы постсавецкі дапаможнік па гісторыі атрымаўся вельмі савецкім — неаб'ектыўным і тэндэнцыйным. Нават апісваючы сваю «канцэпцыю» журналістам, аўтары абапіраліся не толькі на факты і дакументы, а, галоўным чынам, патэтычна аб'яўлялі ўсе іншыя меркаванні *«ачарненнем і хлуснёй»*. Адзін з прафесараў, сп.Марцуль, эмацыянальна заявіў, што *«кандыдаты, дактары, прафесары — паклёпы пішуць!»* Аднак на настойлівую просьбу карэспандэнта НАВІНАЎ назваць імёны канкрэтных дактароў-паклёпнікаў гісторыкі чамусьці збянтэжыліся і раптам заявілі, што *«як такога паклёпу няма, ёсць розныя, несупярэчныя пазіцыі беларускіх гісторыкаў»*. А адзін з іх нават сказаў зусім нечаканае: *«Можа, і нас хто паклёпнікамі назаве...»* Цалкам верагодна, шаноўны прафесар.

Наклад «Гісторыі Беларусі» пакуль невялікі — 10.000 экземпляраў, але чакаецца, што паследуюць перавыданні дапаможніка большым накладам і яшчэ — у перакладзе на рускую мову. Каштаваць кніжка будзе 265 тысяч рублёў (дырэктар выдавецтва «Універсітэцкае» У.Касько паведаміў, што гэта толькі на 20 тысяч больш за рэальныя затраты). Не трымаюць у сакрэце і памер ганарару — усе разам аўтары атрымалі 128 мільёнаў рублёў. Гэта зусім няшмат, на кожнага даводзіцца каля 6 мільёнаў, і гісторыкі прызналіся, што такой аплатай яны пакрыўджаныя. *«Такі ганарар зневажае чалавека працы, —* сказаў Яўген Новік. *— Людзям, якія служаць дзяржаве сумленна, трэба сумленна плаціць»*. Як можна было зразумець са словаў сп.Новіка, аўтарскі калектыў чакае, што дзяржава ўсё ж зразумее важнасць іхняй працы і шчодра адплаціць матэрыяльнымі выгадамі.

**Алена СУРКО**

## *Это любопытно*

**СРЕДНИЙ АНГЛИЧАНИН**, купив сотовый телефон, сэкономит себе в год 16 километров пеших прогулок в поисках телефона-автомата.

**КАНАДСКИЕ УЧЕНЫЕ** измерили суммарную площадь снежинок в одном грамме снега. Она составляет 0,06–0,37 квадратного метра. Знать эту величину необходимо для того, чтобы рассчитать, сколько грязи может снег захватить из воздуха, опускаясь на землю.

**ПО МНЕНИЮ** сотрудника исследовательского центра фирмы «Ксерокс» Марка Вейзера, к 2015 году к Интернету будет подключена четверть человечества.

**СВЕРХТОНКИМ** лучом лазера, которым управлял компьютер, немецкие инженеры смогли вырезать шестеренку из человеческого волоса. Диаметр выбранного волоса — примерно 0,07 миллиметра.



На снимке: шестеренка, вырезанная из человеческого волоса.

**МЕЖДУНАРОДНАЯ** комиссия по атомной энергии сообщила о полной ликвидации мухи цеце на острове Занзибар. Муха наносила колоссальный ущерб местным скотоводам. Результат дала кампания по истреблению мухи путем массового выпуска стерилизованных (бесплодных) самцов. Метод предложен в 20-х годах русским генетиком А. Серебровским: самцов вредного насекомого специально разводят, стерилизуют облучением и выпускают в природу. Поскольку их гораздо больше, чем нормальных самцов, и они не оставляют потомства, — количество насекомых сокращается. В 50-х годах метод независимо открыли американцы и впервые применили его на острове Кюрасао для уничтожения оводов. На Занзибаре за четыре года выпустили около восьми миллионов неполноценных самцов, и муха вымерла.

**АМЕРИКА, КАЖЕТСЯ**, начинает выигрывать в войне против рака. Согласно последней статистике, если с 1973 по 1990 год заболеваемость раком в США росла ежегодно в среднем на 1,2 процента, то с 1990 по 1995 год она падала на 0,7 процента ежегодно. В первый период смертность от рака росла ежегодно на 0,4 процента, сейчас она ежегодно падает на полпроцента.

**В США И ИТАЛИИ** начат выпуск мужских носков с тефлоном. Тефлоновые нити вплетены в те части носка, где нога может натираться обувью. Так как тефлон — один из самых скользких материалов, трение почти исчезает и не образуются ни волдыри, ни мозоли.

## «Мыльные оперы» опасны

К такому выводу пришел профессор Оксфордского университета Майкл Эрджайл, который в течение последних 11 лет провел тысячи опросов в попытке определить «формулу счастья».

По мнению ученого, люди, увлекающиеся «мыльными операми», живут в мире иллюзий, заводят фальшивых друзей и часто испытывают жестокое разочарование, сталкиваясь с реальной действительностью. Что касается «формулы счастья», то здесь профессор Эрджайл не слишком оригинален, выдвигая на первый план такие факторы, как удачный брак, хорошее здоровье, удовлетворенность работой, веру в Бога и материальную обеспеченность.

## Похищены ботинки Ленина

На прошлой неделе в музее-заповеднике «Горки Ленинские» под Москвой ловили бандита. Он украл из экспозиции ботинки вождя мирового пролетариата, которые собирался сбыть коллекционерам. Однако вынести историческую обувь за пределы огромной территории музея злоумышленнику не удалось. Смотрительница музея заметила пропажу и подняла тревогу. Милиция устроила на похитителя облаву и, загнав на берег озера, вынудила сдаться.

**С.П.**



# Школьные советы

Хотите ли вы, чтобы у вашего ребенка не пропало желание учиться?

Хотите обойтись без нервотрепки, поучений, взаимных обид? Вот несколько советов.

**1.** *Утром будите ребенка спокойно. Проснувшись, он должен увидеть вашу улыбку и услышать ласковый голос. Не подгоняйте с утра, не дергайте по пустякам, не укоряйте за ошибки и оплошности, даже если «вчера предупреждали».*

**2.** *Не торопите, умение рассчитать время — ваша задача, и если это вам плохо удается, то вины ребенка в этом нет.*

**3.** *Не отправляйте утром ребенка в школу без завтрака: до школьного завтрака ему придется много поработать.*

**4.** *Не прощайтесь, предупреждая и наставляя: «Смотри, не балуйся», «Веди себя хорошо», «Чтобы сегодня не было плохих отметок» и т.п. Пожелайте ему удачи, подбодрите, найдите несколько ласковых слов. У него впереди трудный день.*

**5.** *Забудьте фразу «Что ты сегодня получил?» Встречайте после школы ребенка спокойно, не обрушивайте на него тысячу вопросов, дайте расслабиться (вспомните, как вы сами чувствуете себя после тяжелого рабочего дня, многочасового общения с людьми). Если же ребенок чересчур возбужден, если жаждет поделиться чем-то, не отмахивайтесь, не откладывайте на потом, выслушайте.*

**6.** *Если видите, что ребенок огорчен, но молчит, не допытывайтесь, пусть успокоится, тогда и расскажет все сам.*

**7.** *Выслушав замечания учителя, не торопитесь устраивать взбучку и постарайтесь, чтобы ваш разговор с учителем проходил без ребенка.*

**8.** *После школы не торопите садиться за уроки, необходимо два-три часа отдыха (а в первом классе хорошо бы часа полтора поспать) для восстановления сил. Лучшее время для приготовления уроков — с 3 до 5 часов. Занятия вечерами бесполезны, завтра придется все начинать сначала.*

**9.** *Не заставляйте делать все уроки в один присест, после 15–20 минут занятий необходимы 10–15-минутные «переменки».*

**10.** *Во время приготовления уроков не сидите «над душой», дайте возможность ребенку работать самому, но уж если нужна ваша помощь, наберитесь терпения. Спокойный тон, поддержка («Не волнуйся, все получится», «Давай разберемся вместе», «Я тебе помогу»), похвала помогут лучше.*

**11.** *Старайтесь избегать условий: «Если ты сделаешь то...». Порой условия становятся невыполнимыми, не зависят от ребенка, и вы можете оказаться в очень сложной ситуации.*

**12.** *Найдите (постарайтесь найти) в течение дня хотя бы полчаса, когда вы будете принадлежать только ребенку, не отвлекаясь на домашние заботы, телевизор, разговоры с мужем.*

**13.** *Если что-то не получается, посоветуйтесь с учителем, врачом, психологом, не считайте лишней и литературу для родителей.*

# Банный день для кошки

**СОГЛАСНО** медицинской статистике около шести миллионов американцев страдают аллергией на кошек. Две трети из них стараются держаться подальше от этих мелких домашних хищников. Но остальная треть так любит кошек, что не может отказаться от контактов с ними, несмотря на резь в глазах, заложенность носа и прочие аллергические неприятности. Обычно таким людям рекомендуют чаще мыть домашнюю любимицу, так как аллергия вызывается частицами шерсти, кожи, выделений кожных желез и даже высохшей слюны, остающейся на шерсти после вылизывания.



В Центре по изучению астмы и аллергических болезней при Вирджинском университете испытали разные способы помывки кошек, чтобы установить, какой из них наиболее эффективно удаляет аллергены с шерсти. Одну группу кошек еженедельно погружали на три минуты по шейку в простую воду с температурой 38 градусов Цельсия. Вторую после этого еще на три минуты макали в чистую воду. Третью группу еженедельно мыли с мылом теплой водой из шланга в течение минуты. Всех животных после этого вытирали полотенцем и оставляли сохнуть.

Оказалось, что первый способ купания снижает содержание аллергенов на шерсти и в воздухе комнаты на 79 процентов, второй — на 84 процента, а третий — только на 44 процента. К сожалению, за неделю уровень аллергенов возвращался к норме, так что купать кошку надо еженедельно. За время опытов большинство кошек привыкли к воде, но удовольствия процедура не вызывала ни у одной.

**Н.Ж.**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1251 Нумар падпісаны ў друк 20/10/98 (15:30) Наклад — 18 250.